## ЗЬ ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# З чаго пачынаецца Радзіма...

**Наш карэспандэнт сустрэўся з 16-гадовым Алесем Палтарацкім і 18-гадовым Андрусём Дзьвігуном, якія першымі ў Магілёве былі затрыманыя міліцыяй падчас збору подпісаў за кандыдатаў у прэзыдэнты.**

– *Хлопцы, распавядзіце, як адбылося вашае затрыманьне.*

А.П. – Мы хадзілі па дамах ды прапаноўвалі падпісацца за кандыдатуру Зянона Пазьняка на пост прэзыдэнта. У адным з пад'ездаў мы сутыкнуліся з бабулькаю, якая без усялякіх на тое падставаў пачала крычаць на нас, пры гэтым абражала ды называла нас фашыстамі. Але мы не надалі гэтаму вялікае ўвагі й працягвалі зьбіраць подпісы. Крыху пазьней, пры выхадзе з пад'езду, нас затрымаў нарад міліцыянтаў, якіх узначаліваў прапаршчык Сьвірыдаў Яны нас абшукалі й адвезьлі ў Цэнтральны РАЎС. Там на нас склалі пратаколы і выпусьцілі. У мяне ўзялі подпіс, што я зьяўлюся назаўтра, а ў Андруся забралі пашпарт.

А.Д. – Натуральна, я не чакаў такога хуткага затрыманьня. Склалася ўражаньне, быццам у пастарунку нас ужо даўно чакалі.

– *Алесь, а як паставіліся твае бацькі да гэтага затрыманьня й увогуле да тваёй дзейнасьці?*

А.П. – На першы момант мае бацькі зрабілі мне своеасаблівы хатні арышт. Я ня меў права прыходзіць пазьней пэўнага часу, ды ўвогуле зьявілася шмат абмежаваньняў. Але калі я патэлефанаваў у Менск у «Вясну 96», і з бацькамі адтуль паразмаўляў адвакат, яны пачалі ставіцца да маёй дзейнасьці больш спакойна. Магчыма, ён пераканаў іх у тым, што я маю на гэта права й не парушаю ніякіх законаў.

– *Андрусь, за што канкрэтна табе падчас судовага паседжаньня далі штраф?*

А.Д. – Я ня ведаю, які артыкул мне прыпісалі. На суд пасьля затрыманьня я прыйшоў з прадстаўніком. Пасьля таго, як майго прадстаўніка Валадара Цурпанава яшчэ да пачатку суда (пра гэта гл. у «ТМ» №10) арыштавалі, я застаўся адзін. Я доўга намагаўся дапытацца, па якому артыкулу мяне судзяць. Але мае спробы давесьці ім сваю рацыю ня мелі плёну. Мне вынесьлі той прысуд, які ўжо, па ўсяму відаць, быў загадзя вядомы. Як і заўсёды ў сёньняшніх палітычных справах, судзьдзя дзейнічала рашуча, не надаючы ўвагі тлумачэньням, высьвятленьню дэталяў і г.д. Праўда, хачу адзначыць, што судзьдзя Плотнікава размаўляла са мной па-беларуску.

– *Алесь, падзяліся крыху сваімі ўражаньнямі. Ты-ж быў упершыню ў жыцьці арыштаваны, ды яшчэ за «палітыку»...*

А.П. – Канешне, уражаньні моцныя, бо тое, што выпрабоўваеш сам, адрозьніваецца ад расповядаў іншых. Хаця няма нічога дзіўнага ў тым, што нас затрымалі. Для нашай улады гэта характэрна: калі ты думаеш ня так, як яна, то папросту ня маеш права гэта выказаць, альбо будзеш пакараны.

– *Андрусь, а што больш за ўсё ўразіла цябе? Нядаўна ты быў паўторна арыштаваны за тое-ж самае.*

А.Д. – Больш за ўсё мяне ўразіла тое, што майго прадстаўніка, праваабаронцу, арыштавалі за тое, што ён хацеў абараняць мае правы. Жахліва, што амбіцыі міліцыянтаў стаяць наперадзе правоў, якія яны павінны былі б абараняць ад парушэньняў.

– *А як адбылося тваё другое затрыманьне?*

А.Д. – Нас было чацьвёра: Віталь Макаранка, Віктар Абрамовіч, Аляксей Колчын ды я. Але арыштавалі нас не за збор подпісаў, а за распаўсюд друкаванае «продукции»(арт.172). Проста мы пасьпелі схаваць падпісныя лісты. Судзячы па ўсяму, нашае затрыманьне было сплянаванай апэрацыяй. Гэтым разам міліцыя паводзіла сябе больш ветліва, чым у першы раз, калі мяне затрымалі з Алесем. На нас ня лаяліся брыдкімі словамі, не было аніякага ўціску. Магчыма, паспрыяла гэтаму тое, што сярод затрыманых былі дарослыя людзі.

– *І апошняе пытаньне. Што вы цяпер думаеце пра прэзыдэнцкія выбары?*

А.П. – Наконт выбараў прэзыдэнта скажу адзінае: яны павіны адбыцца. Таму я і пайшоў зьбіраць подпісы.

А.Д. – На маю думку, яны павінны быць праведзеныя. Хаця я не ўяўляю, як гэта будзе адбывацца. Але я буду рабіць усё ад мяне залежнае, каб яны адбыліся. Я працую ня дзеля палітычных партыяў ці асобаў, я гэта раблю для свайго сумленьня.

***Размаўляў Дзяніс НОВІКАЎ***



# А студэнты пабеглі далей...

МОГИЛЕВСКИЙ ГОСУДАРСТВЕННЫЙ УНИВЕРСИТЕТ ИМЕНИ А.А.КУЛЕШОВА

РАСПОРЯЖЕНИЕ

от «12» марта 1999г. № 10

Проректорам, деканам факультетов, зав.кафедрами, руководителям служб

В связи с тем, что группа депутатов бывшего Верховного Совета 13 созыва приняла антизаконное решение о выборах Президента Республики Беларусь в мае 1999 года, которое противоречит Конституции Республики Беларусь, утвержденной на всенародном референдуме в ноябре 1996 года абсолютным большинством белорусского народа, прошу разъяснить студентам и сотрудникам своих подразделений о незаконности этой акции и предупредить, что в случае их незаконного участия в ней могут наступить правовые последствия.

Ректор [подпіс] М.А.Авласевич

Согласовано: юрисконсульт [подпіс]

Будучыя настаўнікі і навукоўцы – студэнты Магілёўскага педагагічнага ўнівэрсітэта – нечакана для рэктарату праявілі цікаўнасьць і нават спрычыніліся да маючых сёлета адбыцца прэзыдэнцкіх выбараў. Больш за іншых на гэты конт устрывожыўся «товарищ ректор» Аўласевіч. На адмысловай нарадзе ён строга папярэдзіў дэканаў і выкладчыкаў «аб недапушчальнасьці ўцягваньня студэнтаў у палітыку». (Пільны кіраўнік установы западозрыў, што ў справе «ўцягваньня» без выкладчыкаў не абышлося. Дарэчы, не памыліўся).

Але нарада нарадай: вусныя словы нікуды не падшыеш і нікому не прадэманструеш. А так хочацца прадэманстраваць адданасьць рэжыму, які-ж нездарма «ацаніў і даверыў». Уздагон прафілактычнай нарадзе выдаецца дакумэнт. Нават візіруецца юрыстам. Можа для большага страху ці для саліднасьці. А можа, як гавораць злыя языкі, каб мець магчымасьць зваліць усё на ўнівэрсітэцкага «правоведа», калі высьветліцца раптам, што выбары не апазыцыйная забаўлялька, а адказная і цалкам законная акцыя нацыянальнага і эўрапейскага маштабу. Хто там ведае, што варушыцца гэтымі днямі ў рэктарскай душы...

Нам цікава іншае. Студэнтаў строгае «Распоряжение», як бачым, ніколькі не запалохала. Яны перадалі яго газэце, каб пазнаёміць з дакумэнтам грамадзтва. А самі пасьпяшаліся па справах. У тым ліку – па справах выбарчых.

***Рэдакцыйны Аглядальнік друку і пошты***

**Збор подпісаў за кандыдатаў на прэзыдэнцкіх выбарах Зянона ПАЗЬНЯКА і Міхаіла ЧЫГІРА праводзіцца ў Магілёве**

**па адрасу:**

**Ленінская 27-50, тэл. 25-64-73**

## МЯСЦОВЫЯ ВЫБАРЫ

# Такая абаяльная абыякавасьць

**На мінулым тыдні ў Магілёве прайшоў сэмінар па навучаньні наглядальнікаў за выбарамі. Арганізатарам яго выступіла Кансультатыўна-Наглядальніцкая група АБСЭ.**

Да ўдзелу ў сэмінары былі запрошаныя прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў, палітычных партыяў, актывісты выбарчых камісіяў, а таксама старшыні выканкамаў або іх намесьнікі. Тэмай працяглага паседжаньня былі мясцовыя выбары, што праводзяцца ўладамі ў красавіку.

Дакладчыкі прадстаўлялі Францыю, Вялікую Брытанію, Літву, Украіну й Расею. Яны распавялі пра гісторыю ўзьнікненьня інстытуту наглядальнікаў, пра досьвед дзейнасьці розных грамадзкіх нацыянальных ды міжнародных арганізацыяў і структураў у дачыненьнях з дэмакратычнымі акцыямі.

Мяркуем аднак, што карысьці ад сэмінара будзе няшмат. Форма яго не вызначалася, так бы мовіць, навізною: даклад, пытаньні, адказы. Але галоўнай прычынай дарэмна скарыстаных на сэмінар сродкаў і часу ёсьць розьніца падыходаў да плянуемых выбараў.

Як вядома, дэмакратычныя партыі адмовіліся браць у іх удзел (па прычыне недэмакратычнасьці ўнесеных у выбарчы Закон прэзыдэнцкіх папраўак, а таксама – ўпэўненасьці ў немагчымасьці ніякіх выбараў ва ўмовах дыктатуры). Таму намер АБСЭ эфэктыўна правесьці сумеснае навучаньне грамадзкіх наглядальнікаў і прадстаўнікоў «вэртыкалі», якая варожая да любых формаў адкрытага кантролю, выклікала сярод удзельнікаў сэмінара толькі іранічныя ўсьмешкі. Дарэчы, «вэртыкальшчыкаў», мяркуючы па іхных пытаньнях замежным адмыслоўцам, цікавіла толькі тое, як можна «законна» як мага меней дапусьціць наглядальнікаў на выбары і як пашырыць склад прадстаўнікоў улады на кожным выбарчым участку.



Наш карэспандэнт падчас сэмінара запытаўся ў прадстаўнікоў КНГ, ці ня ёсьць удзел АБСЭ ў наглядзе за мясцовымі выбарамі спробаю легітымізацыі беларускага рэжыму, падтрымкі недэмакратычнага заканадаўства. У адказ прагучала запэўніваньне, што *гэта ня так*.

Як гаворыцца, дзякуй і на тым! Хаця словы – адно, а справы – другое. Пакуль АБСЭ, на думку многіх аналітыкаў, дэманструе ў беларускіх справах дыпляматычную, абаяльную, а ўсё-ж – абыякавасьць.

***Уласная інфармацыя***

